Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada

## КАМУНІКАТ Но. 4 (78 ад 1999), ВЕРАСЕНЬ, 2003

# НА СТАГОДЗЬДЗЕ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

28 верасьня , 2003 году Натальлі Арсеньневай, аўтарцы малітваў: «Магутны Божа» і «Крыж» споўнілася сто год. Як паэтка сама аб сабе кажа: «Сьведама пачала я жыць у Вільні, і Вільню лічу сваёй Бацькаўшчынай». Тут яна закончыла Віленскую Беларускую Гімназію. Тут яна пачала сваю паэтыцкую творчасьць. Максім Гарэцкі, настаўнік гэтае школы, заўважыў здольнасьці Натальлі Арсеньневай і стаў узгадоўваць яе, як паэтку, за што яна праз усё сваё жыцьцё засталася яму ўдзячнай..

Разгляд паэтыцкай творчасьці Натальлі Арсеньневай пакінем для літаратураведаў, а тут скажам толькі, што на нашу думку Натальля Арсеньнева была адной з найвыдатнейшых, найвялікшых беларускіх паэтаў усяго часу. Веліч яе заключаецца ў сіле яе духу, інтэлекту, глыбіні пачуцьця, выражаных у сіле мастацкіх вобразаў, у простым і элегантным стылі. Матацтва Натальлі Арсеньневай ёсьць sophisticated.

Нашы беларускія найвыдатнейшыя паэты, пісьменьніікі, навукоўцы - ІНБЕЛКУЛЬТАЎЦЫ былі наезднікам у 30-х і 40-х гадох фізычна вынішчаныя, разстраляныя, замучаныя ў вязьніцах і канцэнтацыймых лягерох, або там інтернаваныя. Польскамоўны артыкул ў Беластоцкім “Czsopis” 1/2003 пад загалоўкам “Rozstrzelana inteligencja” расказвае пра зьнішчаньне цьвету Беларускага Народу. І Максім Гарэцкі, што ўзгадаваў Натакльлю Арсеньневу, як паэтку, быў расстраляны вопрагам Беларушчыны 10 лютага, 1938 году. Натальлю Арсеньневу савецкая куля мінула. але давялося й ёй адбыць зьняволеньне й ссылку .

Пасьля вайкны Паэтка, як шмат хто з нас, апынулася за мажой, у ЗША - Нью Ёрку , Рочэстар. Лёс наканаваў ёй і сільныя сувязі зь беларускім грамадзтвам Канады, за што мы ўдзячныя лёсу, і пра што якраз тут хочам і расказаць.

**Натальля Арсеньнева й Беларускае грамадзтва Канады.**

У жнівені 1965 году ў Таронта паўстала новая арганізавыя **Задзіночаньне беларускіх Жанчын Канады (ЗБЖК)** пры ЗБК і Парафіі БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага. Жанчыны паставілі перад сабой высокародную мэту: Самаўзгадаваньне. Арганізацыя імкнулася адказаць на пытаньне: «Што я ведаю пра выдатных беларускіх жанчын», такіх як княжная Рагнеда Рагвалодаўна; унучка Полацкага князя Усяслава Чарадзея, княжная Прадслава-Еўфрасіньня Полацкая; паэтка й



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

грамадзкі дзеяч Алёйза Пашкевіч-Цётка, паэтка Канстанцыя Буйла, аўтарка песьні «Люблю наш край», Ларыса Геніюш, Натальля Арсеньнева аўтарка малітваў «Магутны Божа» й «Крыж», ды іншыя выдатныя жанчыны.

Вось паэтка Натальля Арсень.нева жыла недалёка за мяжою ў Рочэстар. Жанчыны запрасілі яе быць ганаропвай сяброўкай сваe арганізацыі - ЗБЖК, на што яна ласкава згадзілася. Мы-жанчыны захацелі бліжэй пазнаёміцца з выдатнай сяброўкай свае арганізацыі паэткай Натальляй Арсеньневай і ў лютым 1969 году запрасілі яе на літаратурны, прысьвечаны ёй й ейнай творчасьці, вечар, што адбыўся 16 лютага ў **Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры** на Сан Клярэнс вуліцы ў Таронта.

На імпрэзу гэту ЗБЖК запрасіла ўсё беларускае грамадзтва й прыяцеля беларусаў украінскага паэту Барыса Аляксандрава з сямёй . Было гэта ў нядзелю, і імпрэза пачалася літургіяй ў БАПЦ. Пасьля «Магутны Божа», сьпяванага ў царкве ўсімі ўлучна з Аўтаркай слоў гімну, мы перайшлі ў залю Цэнтру.

Старшыня ЗБЖК др. Раіса Жук-Грышкевіч адчыніла, як адзін з прамоўцаў выразіўся «літаратурны дзень» песьняй «Беларусь наша Маці-Краіна», словы Натальлі Арсеньневай. Песьня, якую сьпявалі мы ўсе ўстаўшы, канчаецца славамі:

Прысягаем Табе мы сягоньня,
што пакуль хоць адзін з нас жыве,
нашай слаўнай Крывіцкай Палоні
мы ня зганьбім, мы ўславім Яе.

Пасьля прывітаньня й прадстаўленьня спадарыні Натальлі Арсеньневай-Кушаль, Старшыня ЗВЖК, слова для дакладу аб літаратурнай творчасьці Паэтк, дала др. Вінэнту Жук-Грышкевічу, школьнаму сябру Паэткі яшчэ зь Віленскай Беларускай Гімназіі, першай паловы 20-х гадоў, XX стагодзьдзя.

«Гэтая гімназія» - гаварыў прэлегэнт - «як і сутык з выдатнымі беларускімі ліатарурнымі й грамадзкімі дзеячамі таго часу, а перадусім з Максімам Гарэцкім , былі тэй кузьняй, што ўзгадавала нацыянальна, гартавала ідэйна ды падрыхтавала да літаратурнай творчасьці Наталлю Арсеньневу». Даклад, што даваў абраз этапаў разьвіцьця паэзіі, асаблівасьці яе формы, ідэялягічныя асновы й сьветапагляд Паэткі, быў ілюстраваны цытатамі й цэлымі верамі.

Ілюстрацыю паэзіі Натакчллі Арсен.ьневай дапоўнілі рэцытаваныя Раісай Жук-Грышкевіч вершы: «Не астыць мам», «Сівй вярбой», «Сутункі» і «Гэтак будзеш ты мной», ды даклад і рэцытацыя маг. Алеся Грыцука, што падкрэсьліі погляд Паэткі на чалавека.

Тады гаварыла сама Паэтка. Яе даклад «Майму жыцьцю» пераплятaлі ейныя вершы. Але дзе канчаўся верш, а пачыналася невершаваная паэія гутаркі. ледзь можна было прыкмеціць. Жанчыны пахліпвалі, былым жаўнерам і скаўтам блішчэлі вочы, нат неўгамонныя дзеці, вычуваючы нязвычайны настрой бацькоў , заціхлі.

Кіраўнічка імпрэзы дзякуе Паэтцы й дае слова другому паэту Барысу Аляксандраву, Ён хоча гаварыць да нас «мілагучнай, сьпеўнай, беларускай мовай», але, не жадаючы чым-небудзь яе зьняформіць, ужывае сваю ўкраінскую, якая ў вуснах мастака-паэты гучыць ня меней мілагучна й прынадна за нашую. Выражае радасьць з нагоды знаёмства з слаўнай беларускай пясьняркай Наталляй Арсеньневай, аддае справаядлуівасьць яе паэзіі, якая, як і ўся беларуская паэзія ,

цешыцца пашанай сярод украінцаў, ён цёпла вітае «братоў Крывічоў», што так горача й жыва прымаюць сваю паэтку.

Былы беларускі вайскавік др. Язэп Сажыч, што аж з Дэтройту пёрыехаў, каб пачуць Пясьнярку, расказвае, як ён некалі ў Менску, слухаючы першы раз беларускую опэру «Лясное возера», лібэрта якой напісала Натальля Арсеньнева, расплакаўся... так кранальным было хараство музыкі й паэзіі ў сваёй роднай мове!

- «А што паэтка дала нам як вайскавіком! Песьня, што мы сьпявалі напачатку, гэта-ж нашая вайсковая малітва! Кожнай раніцы пры падыманьні бел-чырвона-белага сьвягу мы сьпявалі яе навыцяжку. А цяпер я вас усіх папрашу, тут ёсьць былыя вайскавікі, засьпяваем «У гушчарах затканых імглою » - жаўнерскую песьню, якую паэтка нам таксама дала!» - зь пераконлівай просьбай у голасе гаворыць др. Сажыч.

Усе падхапіліся й грымнулі: «У гушчарах затканых імглою, шэрым змрокам на зорку, зару... Беларусь, Беларусь залатая, за Цябе, за Цябе мы ідзём!»

Надуйшоў час разьвітаньня. Сп-ня Оля Грывцук дзякуе Пясьнярцы й уручае падарак ад ЗБЖК , др Вінцэнт Жук-Грышкевіч ад мужчынаў ЗБК дорыць ёй «сэрца... напоўненая чакалядай, а ад усіх Паэтка атрымоўвае чырвоныя ружы й белыя гвазьдзікі. Імпрэза канчаецца рэцытаваным Раісй Жук-Грышкевіч вершам Настальлі Арсеньневай «Варта жыць!»

(Апісаньне самой імрэзы ўзятае з кнігі «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча» бач. 487 - 490, там і фатаздымкі зь імпртэзы.)

Знаёмства й цясьнейшая сувязь беларускага грамадзтва Канады з Паэткай Натальляй Арсеньневай замацаваліся. Бывала яна ў нас на розных імпрэзах, на Сустрэчах Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што адбываліся ў Таронта . У 1980 годзе Згуртаваньне Беларусаў Канады ладзіла на шырокую скалю сьвяткаваньне **Тысячагодзьдзя дзяржаўнасьці Беларусі.** Наладжаную з гэтай нагоды мастацкую выстаўку афіцыйна адкрыла Паэтка.

### Натальля Арсеньнева й Беларускі памятны Крыж., што ў прошчы "Martyrs' Shrine in Midland Ontario".

Ідэю пабудовы Беларускага памятнага Крыжа ў Канадзе, на адзначэньне тысячыгодзьдзя хрысьціянатва ў Беларусі, Наталля Арсеньнева горача падтрымоўвае й сурацоўнічае з намі ў зрэалізаваньні яе. На мэмарыял.най бронзавай табліцы ўвекавечненыя словы першае й апошняе строфкі «Магутны Божа». Пясьнярка ўдзелнік у 1988 г. 18-ай Сустрэчы БПА у Таронта, ды на трэці яе дзьень, ўрачыстасьцяў асьвячэньня Беларускага памятнага Крыжа. Гэтую гістарычную падзею, асьвячэньне першага за мяжой, на афіцыйнай арэне, беларускага манумэнту Паэтка апела вершам **«КРЫЖ»**

Як вокам сьнінуць -
сьцяг пушчаў сініх...
За пушчай далеч, яшчэ сіней...
А тут на ўзышшы, стаіць над намі
наш Крыж прыгожы, маўляў у сьне...

Шмат чулі сьвету крыжы маленьняў,
шмат просьбаў выкліканых бядой,
прышлі й мы ў Прошчу сагнуць каленьні,
сьвяціць ня нечы ўжо крыж, а свой.

«Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай
краіну нашу», маліўся хор.
І ўторыў натаўп , і сьпелай нівай
хіліўся, ветру на перакор.

А вецер дужаў, кудысь аблокі
зусім павосеньску ўжо плылі.
Маўчала прошча, ўнізе-ж далёка
сінелі зарасьнікі й палі.

«Магутны Божа», бяз слоў прасілі
мы ўсе, а рукі ўзьняўшы ўзвыш,
стаяў нязрушна на ўзгорку-сьхіле
ён, гэткі родны ўжо сэрцу Крыж.

Тут - дождж імгнення каменьне сьпляміў,
рассыпаў кропі ў траве, у лісьці...
Найначай ...
Нехта дзесь там , над намі,,
наш Крыж вадою сьвятой хрысьціў.

**Прошча, 5 верасьня, 1988 году.**

За год прыйшоў час на першае паломніцтва да Беларускага памятнага Крыжа. Прыехала з Рочэстару Натальля Арсеньнева, але ня стала ўжо ейнага сябры, кіраўніка пабудовы Крыжа Вінцука Жук-Грышкевіча, 14 лютага 1989 году «Кон запыніў Яго кіўком рукі», як пісала Паэтка ў у сваім разьвітальным зь Ім вершы. На гэтым скончылася сяброўства Натальлі Арсен.ьневай зь Вінцуком, а ўзмоцнілася яно між Ей і мною. Ужо разам зь Ёю ў парзумленьні з айцом Аляксандарм Надсонам ды Дырэктарам Прошчы а. Джэймсам Фаррэлам, таксама ўжо нябожчыкам, мы зрыхтавалі для Прошчы ў Мідлянду беларускія малітоўныя карткі., Яна зрэдагавала ў цяперашняй беларускай мове малітву Франьцішка Скарыны з «Малой падарожнай кніжкі» (Вільня, 1522) і зрабіла пераклад малітвы да паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў з ангельскай на беларускую мову.

Кожны год у чэрвені перад паломніцтвам да Крыжа прыяжджала да мяне ў Бэры на тыдзень Натальля Арсеньнева рыхтавацца й быць удзельнікам паломніцтва. Прыяжджаў праводзіць паломніцтва й айцец Аляксандар Надсон зь Лёндану. Кожнай раніцы ў нашай сталовай перад сьвятымі абразамі Укрыжаваньня й сьв. Еўфрасіньні Полацкай адпраўляў ён Літургію. Тады маліліся мы й за супакой душ сьв. пам. Франьціша Кушаля й Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Ішлі гады . І з году ў год з тым самым энтузіязмам і запалам прыяжджала

Натальля ў паломніцтвы: другое, трэцяе, чацьвертае, пятае, і здавалася, што так яно будзе заўсёды.

Але гэта толькі здавалася. Прыйшоў час і Натальля кажа: «Не магу прыехаць. Нешта не здаровіцца». «Нічога, Наталка», - кажу, - «на наступны год прыедзеш». Прыйшоў 1996 год, набліжаецца важнае 8-ае паломніцтва . Важнае тым, што ў часе яго адбудзецца высьвячэньне помніка памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі. У тэлефанічнай гутарцы гаворым аб гэтым з Натальляй Арсеньневай. Ізноў яна кажа: мусіць не змагу прыехаць... Ізноў яна перадае паломнікам свае прывітаньні, і шкадаваньні , што ня можа быць разам з намі. Паломнікі прыслалі Ёй свае на падпісанай усімі паштоўцы беларускага Крыжа. Пасьля, калі ў тэлефанічнай гутарцы я расказвала пра паломніцтва , пра тое, што мы яе ўсоаміналі, Яна мне кажа: «Трэба было табе прачытаць верш «КРЫЖ»...

Таму я ведала, што ў часе паховінаў Паэткі абавязкава трэба было прачытаць ейны верш, запяяць «Магутны Божа», што мы й зрабілі. І веру, што ці то Сьвяты Дух, ці дух Натальлі Арсеньневай натхніў Сьятара запрапанаваць мне прачытаць у касьцёле верш Паэткі, што я з удзячнасьця й зрабіла. Таму я й тут цытую Ейныя вершы. Ведаю, што Яна гэта жадала бы.

Прыйшла зіма й вясна 1997 году. Звоніць унучка Паэткі й кажа: «Благая вестка, Баба ўпала, зламала бядро й руку. Цяпер яна ў шпіталі». Падала унучка Ната нумар тэлефону, куды можна званіць да бабулі. Падумала я сабе: палом бядра дабра не варожыць. Вінцук на чацьверты дзень пасьля такое прыгоды памёр. Сэрца ня вытрымала. Але Наталля Арсеньнева мела моцнае сэрца й, як здавалася, зялезнае здароўе. Хутка пасьля апэрацыі звоніць ізноў унучка й кажа: «Добрая вестка, Баба ўжо можа стаць на свае ногі й зрабіла некалькі крокаў. За тыдзень, лекар казаў, пойдзе дамоў.»

Званіла я ў шпіталь. Натальля гаварыла пра сваё гора й цяжкасьці, але была добрае надзеі. Вярнуладся дамоў і памаленьку стала пры дапамозе апірышча хадзіць. А думкі ейныя ўсьцяж кружылі вакол зьяўленьня ў «Запісах» ейнага перакладу на беларускую мову паэмы Гусоўскага «Пес.ня пра зубра». і выхаду з друку ў Менску кнігі ейнай творчасьці . Ды як то бывае, бяда паганяе бяду. Да ўсяго гора Паэтка траціць зрок. Шукае ў лекараў дапамогі, а тыя нічога добрага не варожаць Бядуе мне па тэлефоне, што з вачыма няма паправы., «Няўжо яно так і застанецца, няўжо я зусум асьлепну?!» Ды ня траціць надзеі. І думкі не дапускае, што гэта, можа, прыходзяць ёй канцы... Церпіць болі ў паломах і цемнату ў вачох. «Але фізыныя болі я магу пераносіць - кажа мне - найцажэй з духовымі. Чуюся такая сама й пёакінутая прыяцелямі й сябрамі. Здаецца мне, што я адна на ўсім цалюськім сьвеце . Ніхто не пазвоніць.... Што чуваць зь Нью Ёрку?»

«У Нью Ёрку амаль нікога не засталося , - кажу ёй. -. Шмат хто з Тваіх сяброў і калісьнейшых супрацоўнікаў адыйшоў ужо на той сьвет». Кожны раз . як канчаем гутарку, яна дзякуе, што яе не забываю, і просіць далей не забываць... Званіла я да яе кожную суботу, а пасьля й часьцей.

Прыходзяць лісты зь Беларусі, ня можа на іх даць адказу. Просіць мяне напісаць зацемку ў «Беларусе» пра ейную трагічную сытуацыю. Зацемка мела водгук. Галена Скурат з Канады піша да мяне й цёплы ліст да Паэткі , запэўняе яе аб нашай да яе пашане й любові.

У цёплыя сонечныя дні захапляецца Натальля: «У нас сёньня такі цудоўны дзень! На душы лягчэй, толькі вось нічога ня бачу. Бачу толькі зарысы стала, крэсла, і што нехта стаіць. Болей нічога. Па галаве ходзяць усьцяж фразы , рыфмы.... Пісала бы, каб бачыла...» Пасьля стала наракаць на вял;ікае аслабленьне, і што нічога есьці ня можа.

Ізноў візыта ў лекара, ізноў дасьледаваньні й ізноў благая навіна, 25 чэрвеня лекары зрабілі дыягнозу рака, які ўжо разыйшоў1ся па целе. Засталося два , тры месяцы жыц.ця, кажуць.

«Што рабіць?! - пытаецца Натальля ў мяне - Засталося мне толькі тры месяцы жыцьця!» Кажу ёй: «Дзякуй Богу за такое даўгое й творчае жыцьцё. Ты пакінеш па сабе не абы які сьлед Усё, што Ты напісала, застанецца на заўсёды. Цешся й дзякуй Богу за гэта!» Яна прызнае, што пражыла амаль 95 год, але гэта ніякае для яе апраўданьне , што за тры месяцы павінна памерці. Не, хоць цела слабее, ды дух дамагаецца жыцьця!

Цяпер я старалася тэлефанаваць да яе часьцей. Паэтка стала моцна слабець, і гутарыць ёй зрабілася цяжка. Пазваніла я неяк, тэлефон узяў сын, Пытаю, ці магу гаварыць зь ягонай мамай. Кажа: «Нажаь не, мама надта славая. Ня можа ўстаць, падыйсьці да тэлефону».

«Перадайце ёй. калі лака, ад мяне прывітаньні й маю да яе любоў.» - кажу.. «Пачакайце, кажа Влодак. Па нейкім часе, калі ўдалося ім там перанесьці тэлефон да ложка, слабенькім голасам адазвалася Наталка. З цяжкасьцяй вымаўляла слова за словам. «Не забывай!...» былі яе апошнія словы, ейная апошняя просьба...

Цябе, Наталка, я моцна, моцна люблю й ніколі, ніколі Цябе не забуду» - былі мае апошнія словы да Яе жывой. Я ведала, што гэтым я абяцала ёй прыехаць на паховіны. Хто ведае, мо яна пра гэта й прасіла.?..... Пазваніла я празь дзень, ці два. Сын сказаў, што мама ў шпіталі , у коме. А ў пятніцу, 25 ліпеня, роўна месяц пасьля злавеснае дыягнозы, пазваніў Влодак, што ў 5 гадзін раніцы памерла мама. Вечны Ёй супакой!

Абяцала я спадару Кушалю паведаміць беларускае грамадзтва Канады й перадаць вестку ў ЗША. Пазваніла ў Лёндан айцу А. Надсону, які адслужыў паніхіду. Замовіла кветкі ад Каарддынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, а тым самым і ад сябе, і на другі дзень, у суботу выехала ў Таронта, а струль у нядзелю зранічкі накіравалася аўтобусам у Рочэстар. А другой гадзіне дня была я ўжо ў пахаваль.ным доме, дзе між кветак у дамавіне спачывала цела мае дарагое сяброўкі Натальлі Арсеньневай. На твары яе ляжалі супакой й дастойнасьць. Над целам яе прачытала я паніхіду (Перакладу на беларускую мову а. А. Насона). Гэтак калісь дома ў Пружанах, у Беларусі, суседзі зьбіраліся чытаць бесперпынна над целам нябожчыка малітвы. Малілася я за Яе й дзякавала Богу, што дазволіў мне ў гэты апошні час быць зь Ёю - нашай паэткай Натальляй Арсеньневай. І было ў мяне такое адчуваньне, што што моцны Дух Натальлі з намі, кіруе намі й кажа нам:

«Цяпер, пазбыўшыся зьнішчанага жыцьцём і хваробай цела, я вольная й мацнейшая, як калі!»

**Раіса Жук-Грышкевіч**

---

БЭРЫ, КАНАДА
ВЕРАСЕНЬ , 2003

Др. РАІСА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ
БЫЛЫ СТАРШЫНЯ ККБК